шчыну. Спісак выбаршчыкау ужо зложаны. Сыяністы лічуць мець большасьць і у новай абшчыне, ня гледзючы на перашкоды з боку левых груп. Апошніе маюць заклікаць насяленьне да байкоту выбарау і сваіх сьпіскау ня выстауляць. Такі раскол выклікало школьнае пытаньне.

**Супакой у гандлю** цяпер нябывалы. Мануфактурные, галянтарэйные магазыны зусім не гандлююць. Не гандлююць кавярні і рэстарацыі. Горад вельмі зьбяднеу. Лепей стаіць справа у оптавікоу, якіе адпушчаюць для правінцыйі вялікіе партыі таварау. Самым глауным патрабіцелем лічыцца цяпер веска, якой не палохае ніякая дарагоуля.

**Запісь дэлегатау,** прыбыушых на епархіяльны зьезд духавенства і міран, ідзець пакуль туга.

**У жыдоускай абшчыне** пасьля таго як зьнялі рэквізыцыю з памяшканьня абшчыны, фінансавая камісыя зноу пачала апрацовываць даклад а бюджэце.

**Мейсцовые готэлі,** нягледзючы на тое, што бяруць ад сваіх жыльцоу досіць высокую плату (10—25 р. у суткі), марозяць. За „лішнюю“ топку ад жыльцоу спаганяюць асобные грошы.

**У Менску,** Барысаве, Бабруйску і Луніцы упрауленьнем па справам звароту палонных уцекачоу адчынены аддзелы. Гэтые аддзелы маюць адпрауляць уцекачоу на бацькаушчыну праз Польшчу бяз розніцы веры. Расійскім палонным забаронены праезд у Расію праз Польшчу. Рускіе уцекачы ад бальшавікоу пад апеку гэтых аддзелау ня уходзяць.

Тым, хто зьвертаецца у вышей памяненые установы, выдаюцца карткі, па якім яны адтрымліваюць шта дня: 250 грамау хлеба, каву, цукер, і два разы на дзень па літру зупы. На дарогу кожнаму выдаецца па фунту хлаба.

У гэтые установы зьвертаецца шмат людзей.

**Фондавая біржа** будзе адчынена у хуткім часе. Ініцыятары біржы п. п. Браудэ і Вэнькові́ч падалі на пацьвярджэньне польскай улады статут фондавай біржы. Прадстаунік мясцовай улады, п. Еленскі, запэуніу ініцыятарау, што статут будзе пацьверджаны і вызначыу патрэбу кіравацца у валютных пытаньнях варшаускай фондавай біржай.

Біржа будзе памешкацца на Койданаускай зул. 1—8.

**Бабруйск—Познань** праз Менск Варшаву у хуткім часе будзе уведзены спэцыяльны вагон. Паездка мае цягнуцца 3 дні.



**Цэнтробелсаюзам** вялікіе партыі прадуктау і таварау для вясковага насяленьня: 4 вагоны газы, мелясу, селядцоу, дзегцю, бакалеі і інш.

**Вялікая партыя кажухоу** прыбывае з Валынскай губ. па адрэсу Цэнтро белсаюза для перадачы сельскім коопэратывам 20-22 лістапада.

**Канцэртнае турнэ** беларускага хора Тэраускага у Слуцку (2 сьвецкіе канцэрты) духоуны у павятовым саборы) і Осіповічах прайшло з вялікім усьпехам. Збор быу поуны. Насяленьнем бьу аказаны самы прыхільны і гарачы прыем.

*Рэдактар-выдавец*

*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



## Беларуская Вайсковая Камисія.

Пропануецца усім **падпрапаршчыкам і унцер-афіцэрам**—беларусам зарэгістравацца у Бюро по рэгістрацыі афіцэрау, ваенных чыноунікау, сясьцер міласэрдзія і дактароу у будынку „Эуропа“ № 77.

Рэгістрацыя адбываецца ад 10—2 гад.

Член Беларускай Вайсковай Камісіі **А. Якубецкі.**



Друкарня Інвалідау. Менск.